Гродна
№8 (514),
21 красавіка 2019

www.slowo.grodnensis.by



Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Уваскрасенне Хрыста як надзея для ўсяго чалавецтва

**У чарговы раз перажываем велікодную раніцу, спазнаючы праўду аб уваскрасенні нашага Пана Езуса Хрыста. Праўду, якая напаўняе радасцю сэрцы хрысціян. Аднак варта ўсвядоміць, што вымярэнне гэтай урачыстасці нашмат большае ды важнейшае, паколькі значэнне пустой магілы трэба шукаць не толькі ў кантэксце жыцця вернікаў, але таксама ўсяго чалавецтва і актуальных выклікаў, якія перад ім стаяць.**

● працяг на с. 4

**“Вялікдзень – гэта нагода, каб паверыць у прысутнасць Бога ў нашай штодзённасці”. Папа Францішак**




### НЯДЗЕЛЯ УВАСКРАСЕННЯ ПАНА

**Ян 20, 1–9**

У першы дзень тыдня Марыя Магдалена прыйшла да магілы раніцай, калі было яшчэ цёмна, і ўбачыла, што камень адсунуты ад магілы. І пабегла, і прыбыла да Сымона Пятра і да другога вучня, якога любіў Езус, і сказала ім: "Забралі Пана з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго". Тады выйшаў Пётр і другі вучань, і пайшлі да магілы. Пабеглі абодва разам. І другі вучань пабег наперадзе хутчэй за Пятра і прыбыў да магілы першы. Заглянуўшы, убачыў, што ляжаць палотны, аднак не ўвайшоў. Тады прыйшоў за ім Сымон Пётр і ўвайшоў у магілу, і ўбачыў палотны, якія там ляжалі, і хусту, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная на іншым месцы. Тады ўвайшоў і той другі вучань, што прыбег першы да магілы, і ўбачыў, і паверыў. Бо яны яшчэ не ведалі Пісання, што трэба было Яму ўваскрэснуць з мёртвых.

### ПАСЛАНЫЯ Ў СВЕТ

Жанчыны і апосталы скіроўваюць нас да пустой магілы, каб самі дасведчылі і паверылі, што там няма Езуса. Прывілеяванае месца ў Евангеліі Уваскрасення займае Марыя Магдалена. Яна перажывае асабістую сустрэчу з Хрыстом. Настаўнік з Назарэта пасылае яе да супольнасці апосталаў, да Касцёла, які ад гэтага часу будзе разважаць найважнейшыя таямніцы веры: жыццё, смерць і паўстанне з памерлых Збаўцы.

Урачыстасць Уваскрасення Пана Езуса Хрыста з'яўляецца добрай нагодай, каб усвядоміць, што кожны з нас пасланы ў сапраўднасць смяглы без Слова жыцця, Бога і праўды свет, каб быць сведкам надзеі. Пасланы, каб несці любоў і супакой – тое, чаго так не хапае сучасным людзям.

У сведчанні, якое даём, мы павінны звярнуць увагу на важны аспект: уваскрослы Пан перамог смерць, пекла і д'ябла. Праз дасканалую паслухмянасць Нябеснаму Айцу – як абвяшчае Велікоднае пасланне – Ён "заплаціў за нас доўг Адама і кроўю сэрца сцёр даўгавы надпіс старадаўняй віны". Езус зрабіў пустую магілу знакам таго, што жыццё не заканчваецца тут, на зямлі, і тым самым адкрыў перспектыву вечнага жыцця, паказваючы мэту і сэнс чалавечай штодзённасці.

**Якім знакам з'яўляецца для мяне пустая магіла Езуса?**

**Якую моц мае для мяне Уваскрасенне Хрыста Пана?**

### II ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ (НЯДЗЕЛЯ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ)

**Ян 20, 19–31**

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: "Спакой вам!". І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: "Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас". І, сказаўшы гэта, дыхнуў, і кажа: "Прыміце Святога Духа. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца". Тамаш, адзін з Дванаццаці, званы Блізня, не быў з імі, калі прыйшоў Езус. Іншыя вучні казалі Яму: "Мы бачылі Пана". Але ён сказаў ім: "Калі не ўбачу на руках Яго ран ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не паверу". І праз восем дзён зноў былі ў доме вучні Ягоныя і Тамаш з імі. Хоць дзверы былі замкнёныя, прыйшоў Езус, стаў пасярэдзіне і сказаў: "Спакой вам!". Потым кажа Тамашу: "Дай сюды палец твой і паглядзі на рукі Мае; дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, але веруючым". Тамаш, адказваючы, сказаў Яму: "Пан мой і Бог мой!". Езус кажа яму: "Ты паверыў, Тамаш, таму што ўбачыў Мяне. Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў". Шмат іншых цудаў, пра якія не напісана ў гэтай кнізе, учыніў Езус перад вучнямі сваімі. Гэтае ж напісана, каб вы паверылі, што Езус ёсць Месія, Сын Божы, і каб, веруючы, вы мелі жыццё ў імя Ягонае.

### ЗНАЙСЦІ ПАСЛАННЕ МІЛАСЭРНАСЦІ

"Ты паверыў, таму што ўбачыў Мяне", – такія словы Езус скіроўвае Тамашу. Гэта не дакор з-за таго, што апостал не апраўдаў Яго чаканняў, паколькі ўжо даўно павінен быў зразумець, Кім з'яўляецца Хрыстос, і глыбей паверыць у абяцанні свайго Настаўніка. Наадварот, Езус аказвае Тамашу вялікую міласэрнасць. Пошукі і жаданні апостала споўніліся. Месія ўмацоўвае яго веру і просіць, каб не змарнаваў гэты вялікі дар: "Не будзь няверуючым, але веруючым". Узмоцнены асаблівай ласкай Хрыста, св. Тамаш занясе пасланне любові і міласэрнасці Бога аж на канец свету.

Нам таксама Бог удзяляе ласку, каб не падкормліваць свае нявер'е і сумненні, а звярнулі сэрца да аблічча ўваскрослага Езуса і пагледзелі з праслаўленнем на Яго прабітыя рукі і ногі. Адчуйма радасць ад таго, што ў нашых штодзённых змаганнях Пан знаходзіцца побач, а нашы раны падобны на Яго раны.

**Як я выконваю ўчынкі міласэрнасці для душы і для цела?**

**Як дапамагаю людзям, якія сумняваюцца і не вераць?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Паглядзець з верай

*Надыходзіць час, калі мы асаблівым чынам перажываем найвялікшыя таямніцы нашай веры: смерць і ўваскрасенне Езуса Хрыста. Цяжка абыякава прайсці міма такіх падзей.*

У гэтыя дні здзяйсняецца праўда пра тое, што "калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, то застанецца адно, а калі памрэ, то прынясе багаты плён" (Ян 12, 24). Перажываем гадзіну праслаўлення Збаўцы. Ён прайшоў праз смерць і ўваскрос, каб даць нам жыццё. Ахвяра Езуса Хрыста на крыжы аб'явіла аб дасканалай любові Бога да свету. Пустая магіла з'яўляецца нямым сведкам цэнтральнай падзеі ў гісторыі чалавецтва – змёртвыхпаўстання нашага Пана.

Крыж у людскіх вымярэннях прадстаўляецца знакам ганьбы, знакам паражэння. Менавіта такім чынам вучні ўспрынялі смерць свайго Настаўніка. Яна вельмі іх напалохала і знеахвоціла. Змірыўшыся, вучні вярнуліся да абавязкаў, якія выконвалі, перш чым уступілі ў школу Езуса. Не зразумелі таго, што адбылося: "А мы спадзяваліся, што Ён той, хто павінен вызваліць Ізраіль" (Лк 24, 21).

Чаканні вучняў разыходзіліся з вучэннем Езуса. Яны думалі ў чалавечых катэгорыях, Божая ж логіка зусім іншая. І калі Хрыстос аб'явіўся апосталам пасля ўваскрасення, крыж атрымаў для іх іншае значэнне. Ён заяснеў у сваім бляску і стаў знакам збаўлення: "Ці ж не трэба было Месіі цярпець усё гэта, каб увайсці ў сваю хвалу?" (Лк 24, 26). Пасля сустрэчы са Збаўцам апосталы атрымалі адвагу і не маглі ўжо вярнуцца да папярэдняга ладу жыцця. Адкрылі ў сабе неабходнасць абвяшчаць, што Езус жыве і ёсць з намі аж да скачэння свету.

Кожная сустрэча чалавека з уваскрослым Хрыстом перамяняе жыццё. На жаль, ёсць многа тых, хто варожа ставіцца да праўды аб смерці і змёртвыхпаўстанні Месіі. Погляд на гэтую Таямніцу з надзеяй дае чалавеку абсалютна іншую перспектыву. Вера з'яўляецца брамай, праз якую ўваходзім у іншы свет, у іншую рэчаіснасць, больш поўную, чым пэўнасць нашага розуму – пэўнасць таго, што мы любімыя, важныя для Пана Бога. Евангеліст Ян адназначна сцвярджае: "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Ян 3, 16). Такім чынам, крыж і ўваскрасенне – гэта доказ любові Бога да чалавека. Мы павінны верыць Езусу!

Адзначаем Вялікдзень – фундаментальнае свята для ўсіх хрысціян. Яго належыць перажыць не павярхоўна, толькі спажываючы асвечаныя яйкі, а глыбока ўдаючыся ў сутнасць самой урачыстасці. Варта грунтаваць сваё жыццё на смерці і ўваскрасенні нашага Пана, каб адчуць Яго ўваскрасенне і жыццё ў нас.

**Дарагія Чытачы!**

Жадаю Вам адкрываць у сабе найперш жаданне сустрэчы з уваскрослым Хрыстом, а потым – пасля адкрыцця сэрца – досведу гэтай сустрэчы. Няхай яна дасць новыя сілы, каб супрацоўнічаць з выклікам і быць сведкам Добрай Навіны ў свеце.



***Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры! Дарагія Дыяцэзіяне!***

*Пасля дзён цемры, мукі і смерці на крыжы, пасля таго,*
*як быў пакладзены ў магілу,*
*Хрыстос паўстаў, ясннеючы бляскам славы.*
*Уваскрос! Жыве!*
*Ён аб'явіўся жанчынам, Пятру, апосталам.*
*"А калі яны ад радасці яшчэ не верылі і дзівіліся"*
*(Лк 24, 41), Езус пераканаў, што гэта Ён перад імі,*
*спажываючы пасілак, які Яму падалі*
*(параўн. Лк 24, 42–43). Аднак, хіба, найбольш*
*кранальнай для апосталаў стала сустрэча вечарам*
*першага дня тыдня там, дзе яны былі за зачыненымі*
*дзвярыма з-за страху перад яўрэямі.*
*Збаўца прыйшоў, стаў пасярэдзіне і сказаў:*
*"Супакой вам!" (параўн. Ян 20, 19–20).*

*Браты і Сёстры!*
*Паўстаннем з памерлых Езус пацвердзіў вялікую таямніцу веры,*
*што сапраўды з'яўляецца Богам-Чалавекам.*
*Ён Чалавек, таму змог памерці за нас. Ён Бог, таму змог уваскрэснуць.*
*Уваскрасенне – фундамент надзеі, якая так неабходна ў сітуацыі,*
*калі разнастайныя турботы ўрываюцца ў наша жыццё,*
*а асабліва клопат аб заўтрашнім дні,*
*калі пагражае страта ці адсутнасць працы. Уваскрослы Пан усіх нас*
*ахоплівае сваёй любоўю і гаворыць: "Не бойцеся! Я з вамі.*
*Я застаўся з вамі па-новаму: пад постаццю хлеба і віна.*
*Стаў для вас спажыткам, які дае жыццё".*
*Дарагія Дыяцэзіяне! У моцы Хрыста ўкрыжаванага і ўваскрослага,*
*Валадара Сусвету, прыміце найлепшыя велікодныя пажаданні:*
*супакою, ласкі, надзеі, блаславення. Давайце дазволім,*
*каб Збаўца валадарыў у нашым жыцці.*

***Радасных свят!***

*Аляксандр Кашкевіч*
*Біскуп Гродзенскі*

# Моцаю крыжа





*"О, Крыжу, будзь праслаўлёны, адзіная наша надзея", – сцвярджаецца ў старажытнай песні, якая выкарыстоўваецца ўякасці гімна ў Брэвіярыі ў Нешпарах на Вялікі тыдзень. Яна паказвае парадокс крыжа, заснаваны на інверсіі вартасцей: дрэва ганьбы і смерці становіцца месцам хвалы і перамогі Хрыста, а праз гэта – знакам надзеі і адкуплення для чалавека.*

*У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" расказваем гісторыю Гэлены Гебень з Ліды. Яе сям'я прайшла "крыжовы шлях", аднак у сваіх цярпеннях не была адна. Бог заставаўся з ёй і ўмацоўваў, каб магла набірацца сіл і супрацьстаяць адчаю.*

## РЭПРЭСІІ

Я нарадзілася ў польскай каталіцкай сям'і. Мая мама Гэлена паходзіла з сям'і Вінкель. Яе бацька быў вельмі добрым гаспадаром, меў 40 гектараў зямлі, сад. Але яму давялося жыць у часы, калі працавіты чалавек, які мае добрую маёмасць, лічыўся ворагам народу. Дзядулю як кулака забралі ў лідскую вязніцу. Там абвясцілі прысуд, што ўся маёмасць будзе забрана, а яго самога вывязуць у Казахстан. Навіна так узрушыла дзядулю, што ён атрымаў сардэчны прыступ і памёр у камеры. Меў тады 53 гады.

Праз некаторы час у вечнасць адышла і мая прабабуля, таму ўсю маёмасць атрымала ў спадчыну бабуля Марыся. Такім чынам, рэпрэсіі прымянілі да яе: быў выдадзены загад аб канфіскацыі ўсёй уласнасці і ссылцы ў аддаленыя раёны СССР. Разам з бабуляй у ссылку адправілі таксама маму і мяне, малую дзяўчынку, якой на той час было два з паловай гады. Майго бацьку, Антонія Міцкевіча, таксама прыгаварылі да ссылкі, але ўжо як палітычнага ворага, бо быў звязаны з Арміяй Краёвай. Трапіў у Жэзказган, казахстанскі гулаг, дзе працаваў на рудніку.

Наша дэпартацыя ў Казахстан пачалася 18 красавіка 1952 года. Чакаючы разам з іншымі ссыльнымі "загрузкі" ў вагоны, мы стаялі недалёка ад сметніка. Бабуля заўважыла, што там ляжыць невялікі драўляны крыжык. Падышла бліжэй, падняла яго і ўбачыла, што на фігурцы Пана Езуса адбітыя рукі. Яна адарвала кавалак сваёй панчохі, перавязала фігурку, прытуліла крыж да сябе і схавала пад адзеннем, бо нельга было браць з сабой такія рэчы. Сказала нам: "Гэта місійны крыжык. Я ўпэўнена, што ён здзяйсняе цуды. Думаю, мы вернемся дадому шчасліва".

У ссылку мы везлі з сабой таксама абраз Маці Божай Чанстахоўскай. Менавіта гэтай рэліквіяй бабуля блаславіла маму, калі тая выходзіла замуж, таму не магла яе пакінуць.

## НА "НЯЛЮДСКАЙ ЗЯМЛІ", АЛЕ ПАД БОЖАЙ АПЕКАЙ

Калі цягнік дабраўся да канечнай станцыі, нас пасадзілі ў грузавікі і адправілі на месцы пасялення. Там усіх пакінулі на волю лёсу: спраўляйцеся далей, як умееце. Толькі спачатку загадалі падпісаць дакументы на сталае пражыванне; калі б хто не згадзіўся, не атрымаў бы "мазанку". А ці можна было ўявіць сабе жыццё ў стэпе без даху над галавой? Таму ў нас не было выбару.

Жыццё ў выгнанні выглядала жудасна. Вакол было вельмі шмат змей, павукоў, скарпіёнаў. Я не адзін раз прачыналася, а пад падушкай знаходзіла вужоў таўшчынёй з руку. Днём тэмпература на вуліцы дасягала 50-ці градусаў, у пяску можна было зварыць яйка. З-за кліматычных умоў, каб нешта вырошчваць, патрэбна была вада. Яе падводзілі пры дапамозе сістэмы равоў, якія называлі арыкамі.

Аднойчы я гуляла недалёка ад гэтых арыкаў. Было вельмі горача, таму ўвайшла ў ваду, каб пакупацца. Не ўяўляла, што гэта небяспечна – глыток сырой вады пагражаў дызентэрыяй. Калі з'явіліся першыя сімптомы захворвання, мяне забралі ў лазарэт. Урач сказаў маме, што не выжыву, паколькі няма ніякіх антыбіётыкаў. Трохі пазней захварэў хлопец з суседняга ваеннага гарнізона. Тады з'явіўся шанс, што патрэбныя лякарствы даставяць самалётам з Масквы. А паколькі ніхто не ведаў, колькі іх неабходна для хворага хлопца, доктар узяў іх больш, каб хапіла і мне.

Пасля адыходу ўрача мама старанна прыбрала ў лазарэце і вымыла, што было магчыма. Паспела акурат да яго вяртання. Урач прыйшоў не адзін, а з камісіяй з Масквы. Усе былі здзіўлены, што навокал такі парадак. Думалі, што як адчыняць дзверы, убачаць штосьці жудаснае: хворыя дзеці ляжаць у ложках у антысанітарных умовах. Доктар, удзячны маме за дапамогу, сказаў: "Не перажывайце, зраблю ўсё, што ў маіх сілах". І я сапраўды пачала папраўляцца. Аднак прагнозы і так не былі асабліва аптымістычнымі: меркавалі, што дажыву толькі да 13-ці гадоў... Столькі часу мінула з той падзеі, а я ўсё яшчэ жывая, хоць здароўе падводзіць. Упэўнена, што гэта Езус падарыў мне жыццё, бо побач знаходзіўся крыжык, які знайшла бабуля, а блізкія маліліся за мяне.

Увогуле, малітва і шчырая вера ў Пана Бога заўсёды нам спадарожнічалі, таксама і ў выгнанні. Там знаходзіўся цэлы раён палякаў. Мы заўсёды збіраліся разам на Божае Нараджэнне і Вялікдзень. Хоць якія там былі святы? На стале ставілі крыж, кленчылі, маліліся, спявалі рэлігійныя песні, на пальцах адгаворвалі Ружанец...

Аднойчы, якраз на Уваскрасенне Пана, мы атрымалі пасылку ад другой маёй бабулі. Знайшлі там кавалачак высушанага асвечанага хлеба. Якія мы былі шчаслівыя! Сёння ў многіх сем'ях на святы стол ломіцца ад самых вытанчаных страў, а некаторым усё яшчэ здаецца, што нечага не хапае. Для



нас жа ў той бядоце свята было ўжо тады, калі быў хлеб на стале.

## ВЯРТАННЕ

Калі памёр Сталін, мама выслала ў Маскву ліст, дзе прасіла дазволу вярнуцца дадому. Далучыла да яго пацвярджэнне ад урача, што я хворая, а клімат Казахстана шкодны для майго здароўя. Мы атрымалі пазітыўны адказ і ў канцы 1954 года накіраваліся ў родны край. Хоць бабуля не мела дазволу пакідаць месца ссылкі, не хацела заставацца адна, таму паехала разам з намі – нелегальна.

Пасяліліся ў Воранаўскім раёне ў маёй другой бабулі – Стэфці. Вельмі прыемна ўзгадваць той час. Бабулі чыталі мне Біблію, вучылі малітвы. У нас не было электрычнасці, бо жылі ў калоніі. Вечарам запальвалі свечкі, газавыя лямпы і ўсе разам кленчылі, каб адгаварыць пацеры.

Аднойчы да нас прыехалі супрацоўнікі КДБ і забралі бабулю Марысю. Яе зноў асудзілі, гэтым разам за нелегальны выезд, і прыгаварылі да чарговых 2-ух гадоў ссылкі. Аднак мама звярнулася да адваката. Яму ўдалося абараніць бабулю, таму яна хутка вярнулася да нас. Аднак ужо не пражыла доўга. Пазней мы атрымалі "спраўку", што рэабілітаваны.

За жыццё мы прайшлі шмат цяжкіх выпрабаванняў, аднак захавалі сваю тоеснасць, а цяпер захоўваем памяць пра тыя страшныя падзеі, пра тое, як знішчаліся лёсы нявінных людзей, з надзеяй, што гэта ўжо ніколі не паўторыцца. Да сённяшня захоўваю дома крыж, які абараняў мяне і маіх блізкіх на "нялюдскай зямлі" і ахоўвае надалей. Не стамляюся дзякаваць Езусу, што перад абліччам цярпення не пакінуў нас адных.

*Занатоўвала*
*Кінга Красіцкая*

---

**СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ**

### *Папа Францішак*



*Ніхто з нас не зззяе ўласным святлом. Старажытныя тэолагі гаварылі, што існуе "mysterium lunae". Не толькі ў тоеснасці Касцёла, але і ў гісторыі кожнага з нас. А што такое "mysterium lunae"? Гэта азначае, быць як месяц, які свеціць не сам, а адлюстроўвае святло сонца. Таксама і мы не выпраменьваем святло самі; святло, якое маем, з'яўляецца адбіццём ласкі Бога, святла Бога. [...] Калі любіш, то таму, што нехта побач усміхнуўся табе, калі ты быў дзіцём, і навучыў адказваць усмешкай. Калі любіш, то таму, што нехта побач пабудзіў цябе да любові, даючы зразумець, што ў гэтым заключаецца сэнс існавання. Чалавек любіць, бо яго калісьці палюбілі, прабачае, бо і яму прабачылі. [...] Такім чынам, у ланцугу любові, які папярэднічае нам, мы павінны ўбачыць любоў Бога, што не мае межаў.*

Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 10.04.2019

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Калі гаворым, што ў Эўхарыстыі Божы Сын даў нам самога сябе, то можам сказаць, што ў сакраманце святарства Ён даў нам усё, што неабходна, каб рэалізаваць Яго заданне ў свеце.*

*На падставе гэтага сакраманту тыя, каго Пан Бог выбірае, кліча і пасылае на працу ў сваім Касцёле, удзельнічаюць у місіі, якую Хрыстос даручыў апосталам і іх наступнікам. Гэта місія Хрыста Прарока, Святара і Караля, рэалізаваная ў трайной задачы навучання, асвячэння і накіроўвання ў веры Божага люду. Больш таго, святары ў сілу сакраманту ласкі, удзеленай ім, дзейнічаюць "in persona Christi" – у асобе самога Хрыста. Іншымі словамі, у паслузе святара прысутнічае Пан Езус як Галава Цела, якім з'яўляецца Касцёл, як Найвышэйшы Пастыр свайго люду і Архісвятар Новага Запавету.*

*Службовае вымярэнне святара [...] стварае выключную, вельмі моцную і глыбокую сувязь паміж пакліканым і Хрыстом. [...] Як жа моцна кантрастуе веліч гэтага дару з нашай чалавечай слабасцю і абмежаванасцю! Гэта "скарб у гліняных начыннях, каб веліч моцы была Божая, а не паходзіла ад нас" (2 Кар 4, 7).*

*У дзень святарскага свята прагну ў першую чаргу падзякаваць усім святарам за будаванне містычнага Цела Хрыста, якім з'яўляецца Касцёл. Жадаю кожнаму яшчэ больш ціслага з'яднання з Езусам Святаром і яшчэ большай замілаванасці ва ўласным святарстве.*

Фрагмент гаміліі, прамоўлены падчас св. Імшы Хрызма ў гродзенскай катэдры, 18.04.2019




◆ Гавораць, папа Францішак, калі быў яшчэ арцыбіскупам Буэнас-Айрэса (Аргенціна), склаў малітву "5-ці пальцаў". 1. Вялікі палец – молімся ў інтэнцыі таго, што бліжэй нам самім. 2. Указальны – за тых, хто выхоўвае, фарміруе і лечыць. 3. Сярэдні – за правадыроў, лідэраў, кіраўнікоў. 4. Безыменны – за слабых, хворых, змучаных і абцяжараных праблемамі. 5. Мезенец, самы маленькі з усіх пальцаў, нагадвае пра малітву за сябе.

◆ У Сірыі пасля 5-ці гадоў па смерці распачаўся працэс беатыфікацыі галандскага айца езуіта Франса Ван дэр Лугта. Падчас ваенных дзеянняў святар застаўся з сірыйцамі ў Хомсе, нягледзячы на аблогу горада. Будаваў масты ўзаемаразумення, мірнага суіснавання і сяброўства. Падзяляў упартае рашэнне людзей, якіх закранула бяда вайны, не пакідаць сваю радзіму, казаў: "Для мяне вельмі важна не ўпасці ў роспач, а захаваць надзею, таму што так я магу нешта значыць для іншых, магу нешта значыць для кожнага". Быў забіты на парозе манастыра.

◆ Касцёл св. апостала Пятра ў Адэсе атрымаў тытул "Basilica minor" і стаў такім чынам 3-яй малой базілікай ва Украіне, разам з катэдральным касцёлам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Львове і касцёлам Узвышэння Святога Крыжа ў Чарнаўцах. Адэская святыня пабудавана і асвечана ў 1913 годзе. З 1949 года была адзіным дзеючым касцёлам у горадзе. Цяпер кожны чалавек, наведваючы яе, раз на год у любы самастойна абраны дзень можа атрымаць адпуст пры звычайных умовах.

◆ Колькасць святарскіх пасвячэнняў у Іспаніі ўзрасла на 24%. У 2018 годзе іх прынялі 135 мужчын, у той час як у 2017 годзе – толькі 109. Найбольшая колькасць пасвячэнняў адбылася ў Мадрыдскай архідыяцэзіі, дзе можна вылучыць 14 асоб. Адносна шмат мужчын прынялі святарскія пасвячэнні ў дыяцэзіях Валенсія, Таледа, Севілья, Алькала-дэ-Энарэс, Картахен і Сарагоса. Аднак у той жа час колькасць асоб, якія паступаюць у семінарыі, паменшылася з 1263 да 1203. Амаль 50% алюмнаў паходзяць з 15-ці дыяцэзій, у той час як Іспанія складаецца з 70-ці дыяцэзій.

◆ Паменшай меры 18 працаўнікоў клінікі, якая займаецца зменай полу ў Вялікабрытаніі, звольніліся з працы з-за дрэннага дыягнаставання дзяцей і скіравання іх на гарманальную тэрапію. Яе наступствы незваротныя. З-за недастатковасці доказаў, ужыванне незарэгістраваных лекаў у лячэнні палавой дысфарыі азначае нерэгулюемыя эксперыменты на дзецях. Накірункі толькі ў адну з медыцынскіх устаноў такога тыпу ў Вялікабрытаніі драматычна выраслі за апошнія некалькі гадоў. Калі ў 2010 годзе іх было 94, то за мінулы год іх колькасць дасягнула 2519.

credo.pro; pch24.pl; vaticannews.va

# Уваскрасенне Хрыста як надзея для ўсяго чалавецтва



● працяг са с. 1

## ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Сёння мы ўвесь час чуем пра разнастайныя несправядлівасці і цяжкасці, якія закранаюць людзей у розных краінах на розных кантынентах.





У сваім акружэнні таксама сустракаем шмат людзей, што змагаюцца з разнастайнымі праблемамі, якія пазбаўляюць жадання рухацца наперад, адбіраюць надзею, што ўсё можа быць па-іншаму – лепш. Некаторыя нават губляюць ахвоту жыць, перастаюць верыць у справядлівасць і праўду, у перамогу дабра над злом.

У свеце столькі людзей, якія нястомна задаюць сабе і іншым цяжкія пытанні... Як жыць тым, хто страціў дах над галавой? Тым, хто з-за адсутнасці працы пакідае свае сем'і і адпраўляецца ў іншыя краіны, шукаючы сродкаў на існаванне? Як жыць тым, каму з-за вайны трэба пакінуць свой здабытак і ўцякаць у невядомасць, не маючы нічога? Што павінны сказаць бацькі сваім паміраючым ад голаду дзецям? Як пераадолець прорву несправядлівасці і няроўнасці, якая існуе паміж людзьмі – усё ж, усе мы з'яўляемся дзецьмі аднаго Айца і, хіба, заслугоўваем аднолькава годных і паважлівых умоў існавання?

Не ўдасца хадзіць кругом ды навокал і казаць, што ўсё цудоўна і ідзе ў правільным накірунку. Трэба стаць у праўдзе і прызнаць: нягледзячы на тэхнічны прагрэс і дасягненні ў навуцы, эканоміцы і іншых сферах чалавечага жыцця мы не вырашылі яшчэ ўсе задачы, што стаяць перад намі, людзьмі.

Пасха – гэта штосьці большае, чым чарговы дзень, адзначаны чырвоным колерам у календары. Гэта дзень перамогі жыцця над смерцю, дабра над злом, святла над цемрай, Хрыста над д'яблам і грахом. І так, як поўнасцю змянілася жыццё апосталаў пасля нядзельнай раніцы, калі яны знайшлі пустую магілу, павінна змяніцца жыццё кожнага канкрэтнага чалавека і ўсяго чалавецтва, якое перажывае чарговы ўспамін уваскрасення Пана. І не можа быць інакш.

## ДЗЕНЬ НОВАГА ЖЫЦЦЯ

Чалавецтва не вучыцца на памылках, якія раз за разам здзяйсняе. Нават са страшэнных крывавых войнаў XX стагоддзя не здольна зрабіць адпаведных высноў; стоячы на парозе 3-яй сусветнай вайны, яно не хоча нават падумаць аб наступствах. Можа падацца, што сучасным светам кіруюць эксплуатацыя, падман, несправядлівасць, правіла, што выстаіць мацнейшы, больш бязлітасны...

У кантэксце тых страшных падзей, сведкамі якіх мы з'яўляемся, асаблівае значэнне мае праўда пра ўваскрасенне Хрыста. Прыняць яе – значыць усвядоміць, што Бог непасрэдна прысутнічае ў гісторыі чалавецтва і ў жыцці кожнага канкрэтнага чалавека; што Яго моц дзейнічае ў малых і безабаронных, якія цярпяць прыгнёт і несправядлівасць.

Пустая магіла нашага Збаўцы з'яўляецца сімвалам надзеі і веры ў тое, што дабро, праўда і справядлівасць урэшце пераможуць. Падабаецца гэта камусьці ці не, але іншай надзеі чалавек не мае – толькі ўваскрасенне Хрыста ўказвае шлях да перамены свету ў лепшы бок. Трэба, каб усё зло, несправядлівасць і жорсткасць сённяшніх часоў былі знішчаны. Трэба, каб паўстаў новы чалавек – напоўнены любоўю, дабрынёй і шчырасцю. Толькі так здзейсніцца ўваскрасенне. Таму праўда велікоднай раніцы, хоць гэтая падзея адбылася ўжо больш за 2000 гадоў таму, сёння яшчэ больш актуальная. Мы павінны ўсвядоміць: разам з уваскрасеннем Пана кожны з нас пакліканы да новага жыцця.

## ДЗЕНЬ САПРАЎДНАЙ РАДАСЦІ

Вялікдзень стала з'яўляецца прычынай для нязмернай радасці. Аднак нельга забывацца, што цешыцца з уваскрасення – значыць таксама змагацца з маладушшам і абыякавасцю, якія жывуць у нашых душах. Значыць набліжацца да свайго бліжняга і не закрывацца на яго патрэбы. Значыць у чарговы раз пацвярджаць любоў да другога чалавека. Пазбавіцца ад самалюбства і крывадушнасці. Учыніць так, каб у сэрцы пасяліліся міласэрнасць і надзея. Напоўніць значэннем Пасхі кожны дзень уласнага жыцця, а таксама жыццё іншых, каб яно ніколі не згубіла ў нашых вачах сэнс. Гэта значыць нястомна рухацца ў напрамку перамянення самога сябе.

Вельмі многае ва ўсім гэтым залежыць ад нас саміх! Не ад кагосьці іншага, а менавіта ад мяне. Канешне, не ўдасца змяніць і навярнуць увесь свет, але ў маіх сілах уласная перамена, а праз гэта, у нейкім сэнсе, і свайго акружэння. Дадзеная праўда павінна прыносіць канкрэтныя плён у нашым жыцці.

## ДЗЕНЬ НАДЗЕІ

Урачыстасць Уваскрасення Пана павінна перажывацца з усведамленнем таго, што гэта Бог уваходзіць у наша жыццё і запрашае быць надзеяй для свету, ухвалшаючы яго сведчаннем братэрства і салідарнасці, барацьбой за праўду і справядлівасць, даверам і любоўю, прабачэннем і паяднаннем. Адсунуты ад магілы камень дае магчымасць выйсці да таго, што годнае, каб ужо перастаць марнаваць свой час, здольнасці і сілы на тое, што не вартае, што перашкаджае нам адчуваць і прымаць значэнне быцця Божымі дзецьмі.

Вялікдзень – гэта не такі ж звычайны дзень, як іншыя. Гэта выключны час, які павінен напаўняць наша жыццё асаблівай радасцю. І няхай так будзе! Як заўважыў св. апостал Павел, калі б Хрыстос не ўваскрос, дарэмнай была б наша вера (параўн. 1 Кар 15, 17). Можна дадаць, што не толькі вера, але і ўвогуле жыццё людзей, у якім так многа цяжкасцей і перажыванняў.

Уваскрасенне Пана з'яўляецца надзеяй для кожнага канкрэтнага чалавека і для ўсяго чалавецтва. Не дазволім жа сябе падмануць і пераканаць у тым, што можа быць інакш!

*Кс. Ян Раманоўскі*

# Вястунка Божай міласэрнасці

***У першую нядзелю пасля Вялікадня ў Паўсюдным Касцёле адзначаецца свята Божай Міласэрнасці. Папа Ян Павел ІІ абвясціў яго 30 красавіка 2000 года, у дзень кананізацыі с. Фаўстыны Кавальскай, апосталкі Божай міласэрнасці. Яе галоўнай задачай было перадаць свету напамін біблейскай праўды пра бясконцую любоў Бога да кожнага чалавека. Адной з форм ушанавання гэтай праўды з'яўляецца абраз з надпісам "Езу, давяраю Табе". Менавіта з ім звязана адметная гісторыя, якая падарыла нам сваю апосталку міласэрнасці Госпада.***



## НА РЫЗЫКУ ДЗЕЛЯ ЛЮБОВІ

С. Цэцылія Абухоўская з кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці (Вастрабрамскай) мае амаль 100 гадоў і жыве з іншымі сёстрамі з супольнасці ў Каменцы (дэканат Шчучын). Падзеі даўніх савецкіх часоў, калі ёй давялося ратаваць ад знішчэння арыгінал абраза Езуса Міласэрнага, напісаны па эскізе с. Фаўстыны Кавальскай, манахіня памятае ўрыўкамі, але яскрава. ***"Усё маёй рукой рабілася"***, – адзначае яна, узгадваючы, як падмяняла і перавозіла рэліквію з Новай Руды ў Вільнюс (Літва).

Абраз захоўваўся ў святыні невялічкай вёскі на працягу 30-ці гадоў (1956–1986 гг.). Апынуўся там з прычыны ганенняў на Касцёл у Літве. Аднак варожыя настрої хутка сталі адчувальнымі і на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Мясцовыя ўлады

***У часы ганенняў на Касцёл с. Цэцылія не магла паказваць, што з'яўляецца манахіняй. Аб гэтым ведалі выключна блізкія. Яна не магла насіць хабіт і адкрыта выконваць сваю паслугу. Была вымушана ўкрывацца і займацца іншай працай. Напрыклад, у Парэччы апекавалася сталым чалавекам і дзецьмі, а ў Друскінінкаї (Літва) працавала кухаркай у санаторыі. Толькі пасля змены адносін улад да Касцёла манахіня вярнулася да сваіх ранейшых абавязкаў: служыла арганісткай, катэхеткай. На працягу 25-ці гадоў была генеральнай настаяцельніцай супольнасці Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці (Вастрабрамскай).***

пастанавілі зрабіць з касцёла ў Новай Рудзе гаспадарчы склад, што пазней і было здзейснена. Са святыні павыносілі амаль усе рэчы, узяліся нават разбіраць алтар… Аднак абраз Езуса Міласэрнага пакінулі. Ён вісеў высока пад столлю, і бязбожнікам не знайшлося драбін патрэбнай вышыні, каб зняць яго. ***"Божая міласэрнасць правілася ў Новай Рудзе. Тое, што абраз у той дзень ацалеў – гэта сапраўдны цуд"***, – упэўнена манахіня.

Разам з тым, небяспека знішчэння выявы Езуса Міласэрнага не мінула, таму было вырашана вярнуць абраз у Вільнюс. На момант памятных падзей с. Цэцылія і яе паплечніца с. Тэрэза былі ў сталым узросце, аднак гэта не перашкодзіла ім разам правесці складаную аперацыю.

***"За справу ўзяліся мы ўдваіх ды яшчэ спадар Вацлаў, кіроўца***, – распавядае с. Цэцылія. – ***Рабілі ўсё ў прыцемках, у вялікай таямніцы. С. Тэрэза хоць была значна старэйшая за мяне, адрознівалася вялікай спрытнасцю. Праз хоры мы ўзлезлі на гарышча і дэмантавалі частку драўлянай сцяны. Затым уцягнулі арыгінал і павесілі замест яго загадзя падрыхтаваную копію. На шчасце, абраз не быў цяжкі. Дасталі яго з рамы і скруцілі ў рулон"***.

Да Гродна дабраліся на машыне, а пасля пераселі на цягнік, які даімчаў іх у Вільнюс. Манахіня ўзгадвае, што моцна хвалявалася, калі перавозілі абраз. Падчас падарожжа да іх падазрона прыглядаліся мінакі: увагу прыцягваў прадаўгаваты формы скрутак.

***"Перад паездкай я згаварыла 20 Ружанцаў – цягам усёй ночы. Гэта мой асабісты спосаб на тое, каб справа ўдалася***, – дадае з усмешкай с. Цэцылія. – ***А падчас шляху ўзгадвала вочы Езуса, якія з міласэрнай любоў глядзяць з абраза, і малілася, каб наша падарожжа скончылася паспяхова"***.

Так і атрымалася. У Вільнюсе манахіні накіраваліся ў касцёл Святога Духа. Як і было ўзгоднена, с. Цэцылія падышла да канфесіянала, у якім спавядаў кс. пробашч Аляксандр Кашкевіч, і паведаміла, што прывезла абраз. У святыні для яго ўжо было падрыхтавана месца і замоўлена пазалочаная рама.

Праз некаторы час рэліквія была перанесена з касцёла Святога Духа ў касцёл Святой Тройцы, дзе паўстаў першы ў Літве санктуарый Божай Міласэрнасці. Там абраз сустракае паломнікаў з усяго свету да сёння.

## БОГ НЕ РОБІЦЬ ВЫПАДКОВЫ ВЫБАР

Калі дзякуеш с. Цэцыліі за ўратаванне абраза, яна саромеецца і не стрымлівае слёз. ***"Гэта мне пашчасціла стаць удзельніцай тых падзей. З дзяцінства мела кволае здароўе: слабыя вочы і ногі. Аднак Божая міласэрнасць спадарожнічала на кожным кроку жыцця. Мабыць, Госпад моцна верыў у мяне, раз вырашыў даручыць такую адказную місію"***, – адзначае манахіня.

Яна таксама з захапленнем узгадвае аповеды с. Тэрэзы пра с. Фаўстыну Кавальскую – на працягу пэўнага часу сёстры разам неслі паслугу ў Вільнюсе: ***"Мала адукаваная, непрыкметная, яна нічым асаблівым не адрознівалася ад іншых сясцёр. Аднак мела ў сабе вялікую пакору і заўсёды са шчырай усмешкай і прыязнасцю ставілася да людзей. Як бачым, Пан Езус вырашыў, што менавіта яна з'яўляецца годнай пасланніцтва"***.

С. Цэцылія жадае, каб кожны чалавек у сваім жыцці дасведчыў падобнага стаўлення з боку Нябеснага Айца: калі на цябе безумоўна спадзяюцца і ўсведамляюць як вялікую каштоўнасць.

*Ангеліна Марцішэўская*

# Сутнасць культу Божай міласэрнасці



***Праўда аб Божай міласэрнасці належыць да фундаментальных пытанняў хрысціянства. Уся Біблія прасякнута зместам пра Усемагутнага як міласэрнага Айца, які клапоціцца аб збаўленні чалавека і яго карысці.***

## АБАВЯЗКОВАСЦЬ ДАВЕРУ

На пачатку XX стагоддзя Езус аб'явіўся с. Фаўстыне Кавальскай і наказаў аднавіць культ Божай міласэрнасці ў Касцёле, распаўсюджваючы яго новыя формы: свята Божай Міласэрнасці, абраз Божай Міласэрнасці, Вянчок да Божай міласэрнасці, Гадзіну міласэрнасці, Навэнну да Божай міласэрнасці. Хрыстос склаў вялікія абяцанні для шанавальнікаў гэтага культу. Аднак, праслаўляючы Найвышэйшага, варта ведаць, што сутнасцю гэтых набажэнстваў іх унутраным актам з'яўляецца давер. Гэта пацвярджаюць і словы Езуса, скіраваныя св. Фаўстыне падчас аб'яўленняў: "Ласку з Маёй міласэрнасці можна чэрпаць толькі адным начыннем – даверам" (Дз. 1578). Бог, які выходзіць да чалавека, прагне, каб той даверыўся Яму і даручыў сваё жыццё. Кожны акт культу, калі ён толькі знешні, не гарантуе атрымання абяцаных Хрыстом дароў.

Бл. кс. Міхал Сапоцька, духоўны кіраўнік с. Фаўстыны і адданы распаўсюджвальнік культу Божай міласэрнасці, сцвярджаў, што міласэрнасць Пана з'яўляецца не толькі прадметам даверу, але і яго найбольш эфектыўным матывам: чалавек звяртаецца да Пана, паколькі верыць у Яго міласэрнасць, прызнаючы Яго ўсемагутным, добрым, гатовым прыйсці на дапамогу. Адзінай перашкодай для атрымання гэтай ласкі з'яўляецца свядомае адкідванне Бога і пачуццё самадастатковасці.

## ПАДСТАВА ДАВЕРУ

Давер наражаецца пад уплывам пазнання сапраўднага аблічча Айца і ўшанавання Божай міласэрнасці. Кс. Міхал пісаў: "Хто пакланяецца Божай міласэрнасці, у таго заўсёды будзе хапаць даверу […], а хто жыве поўняй надзеі і даверу, праслаўляе Бога ў тым, у чым Ён найбольш заслугоўвае праслаўлення".

Пакланенне Богу, якому мы абавязаны ўсім, што маем і кім з'яўляемся, – справа абавязковая, правільная і збаўчая. Хрысціянін павінен праслаўляць Стварыцеля, пакорна прызнаючы ўласную ўбогасць і бязмежна даваранючы яго дабрыні (параўн. Дз. 742). Як адзначае кс. Сапоцька, праслаўленне Пана ў Яго міласэрнасці ўжо тут, на зямлі, – гэта ўдзел у хвале Неба, якую складаюць святыя. Яно павінна выражацца ў поўным прыняцці ўсяго, што спатыкае чалавека. Праслаўленне становіцца адзіным заданнем верніка і аднachасова станам святасці па прыкладзе Божага Сына. Само імкненне да святасці ўжо з'яўляецца актыўным праслаўленнем міласэрнасці Усемагутнага, а кожны акт даверу ўсхваляе яе. Святасць, грунтуемая на даверы, павінна фарміраваць духоўную паставу кожнага хрысціяніна.

## РЫСЫ ДАВЕРУ

Вера ў Божую міласэрнасць павінна займаць цэнтральнае месца паміж 2-ма крайнімі падыходамі: квіетызмам (адданне ўсяго Божай ласцы без клопату аб уласным збаўленні) і празмернай актыўнасцю (спадзяванне толькі на ўласныя сілы). Яна павінна быць моцнай і трывалай, вольнай ад сумненняў і слабасцей. Добрым прыкладам з'яўляецца постаць Аўраама, які не ўсумніўся нават тады, калі па загадзе Бога меў скласці ў ахвяру ўласнага сына. Такую веру мелі таксама мучанікі, якія і пад страхам катавання ды смерці не гублялі даверу да Стварыцеля.

Давер мае асаблівую сувязь з боязню Божай. Без яе давер становіцца высакамернасцю, а боязь без даверу – маладушнасцю. Спалучаная з даверам, яна з'яўляецца пакорнай і мужнай, а давер, спалучаны з боязню – моцным і ціплым. Калі не хапае даверу, можна ўпасці ў абыякавасць, а калі не хапае боязі – у саманадзейнасць.

Вера ў Божую міласэрнасць не павінна быць нахабнай, легкадумнай, палахлівай ці поўнай сумненняў, бо тады яна будзе дэфармаванай і ілюзорнай. Каб пазбегнуць гэтага, трэба грунтаваць яе на шчырым навярнанні і сардэчным пакаянні за грахі.

## ПЛЁН ДАВЕРУ

Вера ў Божую міласэрнасць прыносіць плён мужнасці і сілы, каб вытрымаць у самых складаных акалічнасцях, абараняе ад атак пекла (усе спакусы можна перамагчы кароткай малітвай, накіраванай да міласэрнага Хрыста: "Езу, давяраю Табе"). Тыя, хто давярае Богу, адчуваюць перамену: чалавечая сіла, што на самой справе з'яўляецца слабасцю, ператвараецца ў Божую моц. Давер здзяйсняе цуды, бо звязаны з усемагутнасцю Стварыцеля.

Бласлаўлёны святар падкрэслівае, што вера ў Божую міласэрнасць прыносіць суцяшэнне ў цярпеннях, пазбаўляе ад смутку і дэпрэсіі, напаўняе душу звышнатуральнай радасцю. Чалавек, які спадзяецца на ўсемагутнага і міласэрнага Пана, упэўнены ў Яго дапамозе, таму заўсёды захоўвае супакой і ні з-за чаго не трывожыцца. Давер – гэта ратунак і бальзам ад людскіх цярпенняў. Асабліўым чынам суцяшае паміраючага. І, урэшце, запэўнівае ўзнагароду пасля смерці.

## УЧЫНКІ МІЛАСЭРНАСЦІ

Чалавек, які пры жыцці не практыкаваў справы міласэрнасці, не спазнае міласэрнасці Пана ў дзень Суда (параўн. Дз. 1317). Таму другім падмуркам абмяркоўваемых набажэнстваў з'яўляецца выкананне ўчынкаў міласэрнасці адносна бліжніх. Варта падкрэсліць, што хоць яны не належаць да сутнасці культу і не з'яўляюцца найважнейшымі, набажэнствы будуць поўнымі, калі ўчынкі міласэрнасці спадарожнічаюць іх знешнім актам. Яны абавязковыя для атрымання абяцаных ласкаў, якія вынікаюць з канкрэтных форм практыкуемага культу.

Праўда аб Божай міласэрнасці не можа не закранаць жыццё хрысціяніна. Аднак, каб прыняць удзел ва ўсіх ласках, звязаных з культам Божай міласэрнасці, трэба захоўваць яго згодна з воляй Пана і навукай Касцёла.

*Кс. Аляксандр Сямінскі*







### "Кветкі для кардынала"

***Пад такой назвай у парафіі св. апостала Андрэя ў Нарачы (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія) прайшла акцыя з нагоды 80-гадовага юбілею святарства св. п. кард. Казіміра Свёнтка.***

*На сродкі, сабраныя вернікамі, былі набыты кветкі, якія ў дзень юбілею ўсклалі ў крыпце катэдральнага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Пінску, дзе спачывае цела іерарха.*

*Да юбілею нарачанцы таксама замовілі ў мясцовага кандытара торт, які адлюстраваў асноўныя моманты святарскага жыцця кард. Свёнтка. Пасля памятнай св. Імшы парафіяне мелі магчымасць пакаштаваць кулінарны шэдэўр.*




### Міжнародныя дні каталіцкіх выдаўцоў

***Іх арганізуе Ватыканская Дыкастэрыя па справах камунікацыі. Мэта – зрабіць магчымай сустрэчу і абмен думкамі паміж асобамі, адказнымі за каталіцкія выдавецтвы.***

*Праграма мерапрыемства, якое адбудзецца 26–29 чэрвеня ў Рыме (Італія), прадугледжвае разнастайныя дэбаты і канферэнцыі. Іх тэмай будуць выклікі і цяжкасці, якія перажывае выдавецкі сектар ва ўмовах глабалізацыі і абліччы сучаснага свету.*

*У час сустрэчы будзе таксама магчымасць абмяняцца вопытам і прыняць удзел у культурных падзеях, арганізаваных з нагоды мерапрыемства.*




### Закінутая фабрыка становіцца касцёлам

***Вернікі з мясцовасці Шыджуань (Кітай) распачалі збор сродкаў на будаўніцтва касцёла, а пакуль ён не будзе ўзнесены, на літургічныя патрэбы адаптаваны будынак колішняй фабрыкі, закінуты 30 гадоў таму.***

*Касцёл, які цяпер выкарыстоўваюць католікі, занадта малы, каб размясціць на Эўхарыстыі вернікаў як з афіцыйнай, так і з неафіцыйнай супольнасці. Да нядаўняга часу ксяндзы, непрызнаныя ўладамі, адпраўлялі для сваіх парафіян св. Імшы ў прыватных дамах. У сувязі з гэтым было прынята рашэнне аб будаўніцтве будынка для сакральных патрэб вернікаў абедзвюх супольнасцей.*

*У Шыджуань пражывае 2 тысячы чалавек, сярод якіх 80% католікаў.*

# Каляндар падзей

*21 красавіка*
*Нядзеля Уваскрасення Пана.*

*21–28 красавіка*
*Велікодная актава.*

*28 красавіка*
*Нядзеля Божай Міласэрнасці.*

*1 мая*
*Распачацце маёвага набажэнства.*

*2 мая*
*Успамін св. Атаназія, біскупа і доктара Касцёла.*

*3 мая*
*Успамін НПМ Каралевы Польшчы.*

***Дзень Імянін кс. 6-па Аляксандра Кашкевіча, пастыра дыяцэзіі.***

***Даручаем у малітве паважанага Імянінніка.***

# Ружанцовыя інтэнцыі

**Красавік**
*Аб святасці нашых сем'яў і ўмацаванні ва ўзаемнай любові бацькоў і дзяцей, старэйшага і малодшага пакалення.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

**Май**
*Аб Божым благаслаўленні і апастальскай стараннасці ў кіраванні дыяцэзіяй для Пастыраў Гродзенскага Касцёла.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

# Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

## НАВІНЫ



## ПАДРЫХТОЎКА ДА ВЯЛІКАДНЯ

Перад святамі Уваскрасення Пана ў шматлікіх парафіях Гродзенскай дыяцэзіі адбыліся велікапосныя містэрыі. Каб наблізіць вернікам муку і смерць Збаўцы, у касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне тэатр імя св. Яна Паўла ІІ арганізаваў прадстаўленне пад назвай "Аднойчы на скрыжаванні". У гродзенскім касцёле Божай Міласэрнасці дзеці і моладзь паказалі пантаміму "Міласэрны Айцец".

У многіх парафіях было арганізавана набажэнства Крыжовага шляху вуліцамі мясцовасці. У 28-ую гадавіну заснавання дыяцэзіі ў Гродне адбыўся гарадскі Крыжовы шлях, у якім прынялі ўдзел вернікі з мясцовых парафій, а таксама з ваколіц. Падчас набажэнства прысутныя асаблівым чынам маліліся за ўсе сем'і дыяцэзіі. Інсцэніраваны Крыжовы шлях прайшоў у Вялікай Бераставіцы і Сапоцкіне. Таксама вернікі з Іўя, Шчучына і Смаргоні прайшлі вуліцамі сваіх гарадоў, разважаючы 14 стацый велікапоснага набажэнства. Пасля Крыжовага шляху на Святой (Францысканскай) гары ў Ашмянах жыхары ў знак сваёй веры, згодна з традыцыяй, устанавілі чарговы вялікі крыж.

У Пальмовую нядзелю вернікі распачалі адзначэнне Вялікага тыдня – найважнейшага перыяду ў літургічным годзе. У гэты дзень Касцёл у цэлым свеце адзначаў XXXIV Сусветны дзень моладзі – штогадовае свята маладых, арганізуемае на дыяцэзіяльным узроўні. З гэтай нагоды маладыя людзі з розных парафій прыбылі ў Гродна на сустрэчу з біскупам Гродзенскім Аляксандрам Кашкевічам, якая прайшла пад дэвізам "Вось я, слуга Пана. Няхай мне станецца паводле твайго слова" (параўн. Лк 1, 38). Падзея распачалася на Пабернардынскім узгорку. Затым у катэдры св. Францішка Ксаверыя іерарх адправіў св. Імшу ў інтэнцыі маладых людзей дыяцэзіі.

## ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




Дыяцэзіяльнае "Карытас" разам з сёстрамі назарэтанкамі перад святамі арганізавалі ў Гродне пасхальны абед, на які традыцыйна запрасілі бедных і ўбогіх. На распачацце абеду біскуп Аляксандр Кашкевіч благаславіў стравы, а затым склаў святочныя віншаванні. Іерарх запэўніў удзельнікаў сустрэчы, што Каталіцкі Касцёл прагне спадарожнічаць ім у бядзе і падтрымліваць у меру сваіх магчымасцей.

## БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі правёў велікапосныя рэкалекцыі ў парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску. На працягу 3-ох дзён іерарх нагадваў вернікам аб патрэбе нястомнага навяртання і супрацоўніцтва з Божай ласкай.

## ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У будынку Гродзенскай ВДС прайшлі рэкалекцыі для хлопцаў. Сустрэча, якая адбывалася пад дэвізам "Калі хочаш Мяне наследаваць, то бяры свой крыж на кожны дзень і ідзі са Мною збаўляць свет", стала нагодай, каб суцішыцца перад урачыстасцю Уваскрасення Пана, а таксама каб задумацца над выбарам жыццёвага шляху. У сустрэчы прыняло ўдзел больш за 50 хлопцаў з розных парафій дыяцэзіі.

Клерыкі перажылі велікапосны дзень засяроджання, які правёў кс. Віктар Місевіч, канцлер Віцебскай курыі. Семінарысты разважалі над тэмай Божай міласэрнасці. Кс. Віктар звярнуў увагу маладых людзей таксама на некалькі галоўных аспектаў фарміравання святарства.

## АДНЫМ РАДКОМ



• Велікапоснае чуванне правялі ў парафіі Божага Цела ў Крамяніцы (дэканат Ваўкавыск). • Семінар у межах праекта "Самазанятасць – шлях да фінансавай незалежнасці" адбыўся ў Гродне. • Набажэнства адарацыі Крыжа правялі ў гродзенскай катэдральнай святыні. • Парафія св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне ўзбагацілася новымі міністрантамі і цырыманіярыямі. • Сёстры ядзвіжанкі арганізавалі ў Гродне сустрэчу для дзяўчат. • Кс. Пэдра Мар'яна з Бразіліі правёў велікапосныя рэкалекцыі ў парафіі Святога Духа ў Гродне.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

# У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**24 красавіка 1991 г.** – кс. Аляксандр Цярэшка, *проб. Воўпа;*
**24 красавіка 1992 г.** – кс. Ян Мяноўскі, *проб. Рагозніца;*
**24 красавіка 2005 г.** – а. Венантый Вількаш CSsR, *проб. Рэпля;*
**25 красавіка 1984 г.** – кс. Юзаф Мацееўскі, *проб. Заневічы;*
**28 красавіка 1944 г.** – кс. Ільдэфонс Бобіч, *проб. Іўе;*
**4 мая 1967 г.** – кс. Ян Вінажэндзіс, *проб. Нача.*

## АНОНСЫ

# ДЭКАНАЛЬНЫ АДПУСТ АДБУДЗЕЦЦА Ў ВОРАНАВЕ

**Урачыстасць пройдзе 28 красавіка ў санктуарыі Божай Міласэрнасці.**

Эўхарыстыю, якая распачнецца ў 11.00, узначаліць дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Пасля св. Імшы адбудзецца працэсія. Таксама запланавана забаўляльная праграма для дзяцей і канцэрт маладзевага музычнага гурта "OPEN".

# ДНІ МОЛАДЗІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ ПРОЙДУЦЬ У ШЧУЧЫНЕ

**У гэтым годзе ўдзельнікаў сустрэчы, якая адбудзецца 6–8 мая, будзе прымаць парафія св. Тэрэзы Авільскай.**

Дэвіз сёлетняга форуму – "Па прыкладзе Марыі буду служыць Пану". Да ўдзелу запрашаецца моладзь ад 16-ці гадоў (кандыдатам, якім менш за 16 гадоў, неабходны пісьмовы дазвол бацькоў): вучні школ, навучэнцы прафесійных навучальных установаў, студэнты вышэйшых навучальных устаноў.

*Падрабязную інфармацыю можна атрымаць у а. Яна Асіповіча SP па нумары тэлефона: (8 033) 671-67-24 (VIBER), – або праз электронную пошту: 2019ddm@gmail.com. Па розных пытаннях можна таксама звяртацца да кс. каноніка Антонія Грэмзы, адказнага за Дыяцэзіяльныя дні моладзі: (8 029) 632-43-73, (8 029) 286-31-78, e-mail gremantos@gmail.com.*

# МОЛАДЗЕВЫ ФЭСТ АДБУДЗЕЦЦА Ў СМАРГОНІ

**Мерапрыемства пройдзе ў парафіі св. Міхала Архангёла 24–26 мая.**

"Don Bosco Youth Fest" – гэта сустрэча маладых людзей у салезіянскім стылі, якая ўключае малітву, адпачынак, майстар-класы. У праграме фэсту: св. Імша з працэсіяй па вуліцах горада, якую ўзначаліць кс. бп Аляксандр Яшэўскі SDB; дыскусіі на актуальныя тэмы (уплыў сацыяльных медый, сацыялізацыя дзяцей з асаблівасцямі, стаўленне Касцёла да гендэрнага пытання і інш.); музычная праграма праслаўлення Пана і музычная майстэрня "Грай Пану", якую правядзе гурт "Рыбы".

Запрашаюцца маладыя людзі ва ўзросце 16–35 гадоў. Кошт удзелу ў мерапрыемстве – 10 руб.

*Папярэдняя рэгістрацыя ўдзельнікаў адбываецца на сайце sdb.by. Заяўкі прымаюцца да 13 мая.*

# IX ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства адбудзецца 1 чэрвеня на тэрыторыі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікрараён Паўднёвы) пад дэвізам "Сям'я – дом любові".**

Арганізатары рыхтуюць цікавую насычаную праграму (забавы, гульні, конкурсы), а найперш малітву, Эўхарыстыю, якую ўзначаліць біскуп. Да распрацоўкі плана сустрэчы заахвочваюцца ўсе жадаючыя. Тым, хто хацеў бы прадставіць тэатральную сцэнку, спеў на сцэне або мае іншыя прапановы, якія маглі б узбагаціць мерапрыемства, прапануецца папярэдне скантактавацца з арганізатарамі.

На сустрэчу запрашаюцца дзеці з Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з іншых куткоў Беларусі, каб разам у малітве і забаве добра правесці час. Колькасць удзельнікаў не абмежаваная. Арганізатары забяспечваюць кожнага харчаваннем на працягу дня.

*Аб сваім удзеле неабходна паведаміць да 26 мая кс. Юрыю Марціновічу, арганізатару і адказнаму за Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці, на e-mail sakralna@op.pl або па тэлефоне (8 029) 784-05-72.*

# Ад шчырага сэрца

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, а таксама паважаным Галоўнаму Рэдактару Ксяндзу Юрыю Марціновічу, Ксяндзам Яраславу Грынашкевічу, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Саладуху, Алегу Канановічу і Яну Раманоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень, нястомнага запалу ў вядзенні людзей да Пана, апекі Найсвяцейшай Маці, а таксама шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Велікодных свят складаю сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Хрыстос, Збаўца свету, адорвае Вас сваімі ласкамі, сапраўднай радасцю і супакоем.

*Генеральная настаяцельніца Сясцёр дапаможніц чыстцовым душам Ірына Златкоўская*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму і Антонію Дзям'янку, паважаным Ксяндзам Андрэю Роўбу, Пятру Кубелю і ўсім Святарам Гродзенскай дыяцэзіі**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем, каб уваскрослы Хрыстос адорваў Вас патрэбнымі ласкамі і вёў у Божае Валадарства. Няхай побач заўсёды будзе Найсвяцейшая Маці і святыя Заступнікі, а Божы люд падтрымлівае і верна спадарожнічае кожны дзень.

*Парафіяне з Крупава*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Юрыю Марціновічу і Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды свят Уваскрасення Пана шчыра жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў і благаслаўлення на кожны дзень. Няхай Хрыстос дапамагае Вам ва ўсім і ўзнагароджвае за малітвы, мудрыя казанні, прыклад набожнасці і дабрыні.

Дзякуем Біскупу Аляксандру за скіраванне ў нашу парафію ксяндза пробашча Яўгена Учкуроніса.

*Апостальскі рух "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла II са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, моцы і цярплівасці ў выкананні душпастырскіх абавязкаў. Няхай кожны дзень будзе напоўнены супакоем і Божым благаслаўленнем.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, патрэбных Божых ласкаў, зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цеплынёй і радасцю і паспяхова рэалізуюцца ўсе планы. Дзякуем за чулае сэрца і цярплівасць. Памятаем у сваіх малітвах!

*Парафіянкі з гродзенскай катэдры*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Віталю Сідорку, Дзянісу Бразінскаму, Станіславу Краўчанку, а таксама Сёстрам Галіне Занеўскай і Назарыі Міклаш**

з нагоды Велікодных свят шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат радасці і светлай раніцы Уваскрасення. Няхай Хрыстос Вас благаслаўляе, а Панна Марыя мае ў сваёй апецы. Дзякуем за добразычлівасць, любоў і цярплівасць.

*Касцёльны камітэт і парафіяне, Ліда-Фара*

**Паважаным Айцам Пробашчу Антонію Пажэцкаму, Паўлу Раманчуку і Станіславу Садоўскаму**

з нагоды Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай уваскрослы Езус благаслаўляе Вас у штодзённай душпастырскай працы і будзе крыніцай супакою ды радасці.

*Рыцарства Беззаганнай і адарацыйнае кола з касцёла МБ Анёльскай у Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Аляксандру Фядотаву, Віктару Сініцкаму, Аляксею Венцкевічу, Сёстрам Аляксандры і Дароце**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят сардэчна жадаем, каб радасць ад уваскрасення Збаўцы напоўніла душы супакоем і любоўю, робячы Вас адданымі апосталамі Праўды. Шчыра дзякуем за паслугу, малітву, дабрыню і клопат пра кожнага з нас.

*Легіён Марыі, малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем, каб уваскрослы Хрыстос узмацняў Вас для змагання са штодзённасцю, Святы Дух адорваў сваімі дарамі, а Маці Божая нястомна апекавалася і дадавала сіл, каб крочыць наперад. Дзякуем Вашай матулі за сыноў святароў.

*Вернікі з касцёла Божага Цела ў Дварцы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят, Дня нараджэння і Імянін жадаем моцнага здароўя, радасці і толькі ясных дзён. Няхай вера становіцца яшчэ больш адданай, а Божае слова, якое Вы абвяшчаеце, яшчэ глыбей трапляе ў сэрцы вернікаў.

*Парафіяне з Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем душэўнага супакою, моцнага здароўя і нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай уваскрослы Хрыстос дадае Вам сіл, каб пераадольваць усе цяжкасці, Маці Божая штодзённа апекуецца, а Святы Дух спасылае свае шчодрыя дары.

*Парафіяне з касцёла Звеставання НПМ у Міжэрычах*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіславу Сурвілу**

з нагоды Велікодных свят жадаем няспыннай апекі Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Няхай добры Бог заўсёды Вам дапамагае і адорвае патрэбнымі ласкамі.

*Вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў в. Войстам*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Ладышу**

з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, радасці ў сэрцы, зычлівых і добрых людзей побач, апекі Маці Божай, святла Святога Духа і Божага благаслаўлення на ўсё жыццё. Дзякуем за гады працы ў нашай парафіі.

*Былыя парафіяне з в. Войстам*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Беланосу і Прэлату Яраславу Грынашкевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, сіл на кожны дзень і людской добразычлівасці. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Божая міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дадаюць цярплівасці.

*Парафіяне з Макараўцаў*

**Дарагому Сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шчодрых дароў ад уваскрослага Хрыста, моцы Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці і цудоўнага плёну на Божай ніве.

*Мама і тата з усёй сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, сіл і цярплівасці на святарскім шляху. Няхай Святы Дух спасылае на Вас свае шчодрыя ласкі, Хрыстос адорвае міласэрнасцю і будзе крыніцай любові і супакою ў Вашым штодзённым жыцці, Панна Марыя ахінае апекай, а наша малітва дадае патрэбных сіл.

*Вернікі з Варнянаў і Вароны*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят шчыра жадаем моцнага здароўя, сіл і душэўнага супакою. Няхай добры Бог благаслаўляе кожны Ваш дзень, Найсвяцейшая Маці ахінае апекай, а Святы Дух будзе шчодры на свае дары. Дзякуем за шчырую малітву, добрае сэрца і клопат пра нас.

*Парафіяне з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**

з нагоды Дня нараджэння, Імянін, Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, шчасця, цярплівасці ў духоўным выхаванні вернікаў, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай усемагутны Бог узнагароджвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая ахінае пяшчотай і дабрынёй.

*Былыя парафіяне з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і нязгаснага запалу ў паслузе. Няхай уваскрослы Хрыстос і абараняе Вас, а Панна Марыя мае ў сваёй апецы.

*Былыя парафіяне з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, сіл, цярплівасці, Божага благаслаўлення, апекі Панны Марыі і дароў Святога Духа. Дзякуем Вам за навуку, якую шчыра даносіце да нашых сэрцаў, а Вашым бацькам – за сына святара.

*Парафіяне з капліцы МБ Вастрабрамскай у Урцішках*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, сіл, вытрымкі на ўсё жыццё, зычлівых людзей побач і Божага благаслаўлення. Няхай Пан Езус указвае Вам шлях, а Маці Божая штодзённа апекуецца. Няхай прыклад Вашай дабрыні, шчырасці і цярплівасці будзе ўзорам для іншых. Дзякуем бацькам за такога цудоўнага сына.

*Парафіяне з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Астукевічу і Антонію Адамовічу, а таксама Манаскім Сёстрам**

з нагоды Велікодных свят жадаем нястомнай апекі Панны Марыі, дароў Святога Духа, шчодрых Божых ласкаў, душэўнага супакою, людской добразычлівасці, здароўя і доўгіх гадоў жыцця.

*Вернікі з парафіі Індура*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас сваімі ласкамі, здароўем на доўгія гады, сілай і стойкасцю, каб маглі пераадолець усе цяжкасці на жыццёвым шляху.

*Андрэй Слонімец і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Айцу Юрыю Саковічу**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем: няхай Усемагутны дапамагае ў ажыццяўленні планаў, а Маці Божая ахінае сваёй апекай. Моцнага Вам здароўя на доўгія гады і жыццёвай мудрасці ў выкананні штодзённых спраў.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, шчасця і душэўнага супакою. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, Маці Божая падтрымлівае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух удзяляе шчодрыя дары.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ражанкі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, поспехаў і стойкасці ў душпастырскай працы, добразычлівых і надзейных людзей побач.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Новага Двара*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Жэгарыну**

з нагоды Імянін жадаем мноства Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і напоўнены Панам.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Навагрудка і Любчы*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем благаслаўлення ад уваскрослага Езуса на кожны дзень святарскай паслугі, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і патрэбных Божых ласкаў.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Астрыны*

**Шаноўным Працаўнікам рэдакцыі "Слова Жыцця"**

з нагоды Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў. У час Вялікай Ночы, калі нягледзячы на змрок у сэрцах вернікаў гучыць рэха радаснага воклічу веры "Алелюя! Езус Жыве!", жадаем, каб гэтае рэха ніколі ў Вашых і нашых сэрцах не сціхала.

*Вернікі з Астрыны*

**Паважаны Ксёндз Прэлат Вітольд Лазавіцкі!**

З нагоды Велікодных свят сардэчна жадаем Вам душэўнага супакою, шчаслівых дзён, моцнага здароўя, цярплівасці, Божага благаслаўлення, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Няхай святло ўваскрослага Хрыста асвячае Ваш жыццёвы шлях.

*Жыхары в. Шэмбелеўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рэйшалю і Сястры Ганне Насевіч**

з нагоды Велікодных свят складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай уваскрослы Хрыстос узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у паслузе, Маці Божая атуляе сваім плашчом, а Святы Дух асвячае дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі.

*Вернікі з капліцы Ліпічна*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Дня нараджэння жадаем моцнага здроўя, цярплівасці, стойкасці ў пакліканні, штодзённай радасці і добразычлівых людзей побач. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вам спадарожнічае, Езус адорвае благаслаўленнем, а Святы Дух будзе шчодры на свае дары.

*Вернікі з парафіі Раготна*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Мар'яну Хаменю і Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем, каб уваскрослы Езус адарыў Вас здароўем, супакоем, мудрасцю і мужнасцю, а Маці Божая вяла найпрыгажэйшым шляхам да Пана. Сардэчна дзякуем за ахвярную службу Богу і людзям.

*Парафіяне з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Мар'яну Хаменю**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Сардэчна дзякуем за добрае сэрца і клопат пра парафіян і святыню. Няхай Ваш жыццёвы шлях нястомна асвячаюць прамяні Божай міласэрнасці.

*Парафіяне з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем благаслаўлення ўваскрослага Хрыста, добрага здароўя, нязгаснага запалу ў працы, стойкасці, шчодрага плёну на ніве Пана і апекі Найсвяцейшай Маці.

*Вернікі з парафіі Нача, в. Гінэлі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**

з нагоды Дня нараджэння, Велікодных свят і Імянін жадаем моцнага здароўя, поспехаў у святарскай паслузе, зычлівых людзей навокал, бязмежных Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці.

*Парафіяне са Студзянікаў і навакольных вёсак*

**Паважаным Ксяндзам Леону Лішыку і Віктару Мыслюку**

з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, шчасця, нязгаснага запалу і плённай працы на Божай ніве. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух дадаюць Вам сіл, а Панна Марыя адорвае цеплынёй свайго сэрца.

*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі і спадарыня Станіслава з Воўны*

**Паважаным Ксяндзам Раману Ялоўчыку і Яну Сарэлу**

з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, удзячнасці і любові ад вернікаў. Няхай уваскрослы Езус будзе для Вас крыніцай радасці і супакою, благаслаўляе ў паслузе і адорвае сваімі дарамі.

*Станіслава Сідаровіч і Люцыя Лабэцкая з Воўны*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Руслану Мазану і Айцу Андрэю Ядкоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем моцнага здароўя і сіл на кожны дзень. Няхай Святы Дух апраменьвае Вас сваім святлом. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, добрае сэрца і малітву.

*Вернікі з Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

**Паважаным Ксяндзам Яну Гавэцкаму, Артуру Валчкевічу, Алегу Яновічу і Віталію Цыбульскаму, Сёстрам Ірэне, Марыі, Зоф'і і Вользе**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, дароў Святога Духа і сталай апекі Панны Марыі. Няхай кожная хвіліна будзе шчаслівай, а з твару не сыходзіць усмешка.

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Грыцко**

з нагоды Велікодных свят сардэчна жадаем моцнага здароўя, цярплівасці, вытрымкі ў служэнні дзеля ратавання душ. Няхай Маці Божая саграве Вас цеплынёй свайго сэрца, Езус будзе прыкладам на святарскім шляху, і кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю.

*Чарняк Гэлена з капліцы Божай Міласэрнасці ў Хадзілонях*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку**

з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, стойкасці, радасці ад выконваемай душпастырскай паслугі, Божага благаслаўлення, апекі Маці Святароў і шчодрых дароў Святога Духа.

*Вернікі з парафіі Гожа*

працяг на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юзафу Багдзевічу, Раману Вайцяховічу і дарагім Сёстрам**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем здароўя, радасці, душэўнага супакою, сіл у паслузе. Няхай добры Бог бласлаўляе, Святы Дух падтрымлівае сваімі дарамі, а любоў і апека Маці Божай заўсёды дапамагаюць.

*Парафіяне з касцёла свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастырскай працы, мноства цудоўных хвілін на жыццёвым шляху. Няхай Святы Дух спасылае на Вас свае дары, святло ўваскрасення Хрыста асвячае святарскі шлях, а апека Найсвяцейшай Панны дадае сіл. Дзякуем за адкрытае сэрца і адданую паслугу.

*Ружанцовыя колы, апостальства "Маргарытка", парафіяне з касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі ў Рэплі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Здзіславу Пікулу, Алегу Жураўскаму, Казіміру Мураву, Аляксандру Пятровічу і дыякану Артуру Ляшнеўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем, каб уваскрослы Езус бласлаўляў кожны дзень Вашай паслугі, напаўняючы сэрцы радасцю і супакоем, Маці Божая нястомна ахоўвала і апекавалася Вамі, а Святы Дух шчодра ўдзяляў свае дары.

*Парафіяне*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу і Сястры Зоф'і Смятанцы**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя і Божага бласлаўлення. Няхай святло Хрыста асвячае шлях, Яго міласэрнасць і апека Найсвяцейшай Маці дадаюць сіл, Святы Дух вядзе па Божых сцежках, а побач будуць добразычлівыя людзі.

*Касцёльны камітэт, дзеці, парафіяне, Кола Жывога Ружанца з Жамыслаўля*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды Велікодных свят жадаем, каб Божая любоў і міласэрнасць сыходзіла на Вас кожны дзень, Найсвяцейшая Маці трымала пад сваёй апекай, а ўваскрослы Збаўца нястомна адорваў сваімі ласкамі і падтрымліваў на душпастырскім шляху.

*Удзельнікі касцёльнага хору з в. Нача*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Велікодных свят і Дня святара жадаем доўгіх гадоў жыцця, радасці і ўсяго найлепшага. Няхай Святы Дух падтрымлівае душу і цела, дапамагае ў паслузе і ў жыцці, а ўваскрослы Езус і Яго Маці апраменьваюць любоўю і асвячаюць кожны дзень жыцця.

*Ружанцовае кола, апостальства "Маргарытка", члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Станіславу Пацыну, Паўлу Раманоўскаму, Андрэю Радзевічу, Яну Рамаиоўскаму, Паўлу Беланосу і ўсім Ксяндзам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды Велікодных свят і Дня святара жадаем, каб усемагутны Бог адорваў патрэбнымі ласкамі, Панна Марыя нястомна чувала над Вамі, Святы Дух спасылаў свае дары, святарская паслуга прыносіла шчодры плён, а людзі заўсёды былі да Вас зычлівыя.

*Ружанцовае кола, апостальства "Маргарытка", члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Радзюку, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму, Паўлу Урбану і ўсім Святарам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу веры, рэалізацыі ўсіх планаў, зычлівых людзей побач. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух умацоўваюць, а Панна Марыя адорвае цеплынёй свайго сэрца.

*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Вяганскаму**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін жадаем: няхай у Вас стала ўзрастае любоў да Эўхарыстыі, Уваскрасенне напаўняе супакоем, а Святы Дух фарміруе Ваша святарскае сэрца па прыкладзе Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Няхай Святы будуць поўныя надзеі і веры, а ўсе цяжкасці замест таго, каб знеахвочваць, вядуць да святасці.

*Парафіяне з Тракеляў*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубелю**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, сіл, стойкасці, нязгаснага запалу ў паслузе. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім мацярынскім плашчом, а Святы Дух асвячае шлях, якім ідзём разам з Вамі. Дзякуем за добрае сэрца, малітву і зычлівасць.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і Ружанцовае кола з Крупава*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Дулю**

з нагоды Велікодных свят жадаем душэўнага супакою, моцнага здароўя і нязгаснага запалу да абвяшчэння Божага слова. Няхай уваскрослы Хрыстос дадасць Вам сіл, каб пераадольваць усе цяжкасці, і адорыць радасцю свайго Уваскрасення.

*Ружанцовае кола і парафіяне з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Антонію Грэмзу**

з нагоды Велікодных свят жадаем усяго найлепшага: Божага бласлаўлення, апекі Панны Марыі, дароў Святога Духа. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці. Дзякуем за добрае і чулае сэрца.

*Сям'я Падзялінскіх*

**Паважаным Айцам Пробашчу Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Эдуарду Пяцельчыцу, Віктару Бохану, а таксама Сёстрам Агаце і Філатэі**

з нагоды Велікодных свят сардэчна жадаем: няхай Пан спашле на Вас усе патрэбныя ласкі, Маці Божая апекуецца. А Святы Дух нястомна адорвае сваімі дарамі.

*Парафіяне, апостальства "Маргарытка", Ружанцовае кола, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці, здароўя і цярплівасці. Дзякуем за тое, што ахвяруеце ўсяго сябе, каб з'яднаць нас з Богам.

*Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Філіпчыку, Анджэю Ганчару, Віталію Пяткевічу, Дзмітрыю Леўчыку, Клерыкам Уладзіславу Малышку і Віталію Гурцу**

з нагоды Велікодных свят жадаем добрага здароўя, шчасця, шчодрых Божых ласкаў. Няхай Езус Вам бласлаўляе, Святы Дух вядзе праз жыццё, а Панна Марыя нястомна апекуецца.

*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі і парафіяне з касцёла св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу**

з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, поспехаў, шчодрых Божых ласкаў. Няхай Пан нястомна Вас аберагае і мае ў сваёй апецы, а Найсвяцейшая Маці атуляе сваім плашчом і вядзе дарогай да святасці.

*Апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, натхнення і вытрымкі на доўгія гады. Няхай Бог аддзячыць Вам сваёй міласэрнасцю ды шчодрымі ласкамі і з яшчэ большай моцай раскрывае ў Вас патэнцыял Хрыстовага святарства. Дзякуем за духоўную апеку над намі, клопат аб святыні, навуку і шчырую малітву.

*Апостальства "Маргарытка" з Казлоўшчыны*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Алегу Жураўскаму і Каноніку Здзіславу Вэдэру, а таксама Сёстрам Ірыне Барцэвіч, Юліі Клявец, Валянціне Кот і Вераніцы Блізнюк**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят жадаем здароўя, разважлівасці, душэўнага супакою, поспехаў у паслузе, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай Бог бласлаўляе Вас і ўзнагароджвае за нястомную працу і малітву.

*Парафіяне, моладзь, міністранты і дзеці з касцёла св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Аксенцьеву**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Бласлаўлёны ночы цень і кожны новы Божы дзень, Бласлаўлёны кожны крок на мностве пройдзеных дарог, Бласлаўлёныя святыя далоні і пакрытыя срэбрам скроні. Хай жыццё ў радасці мінае, а здароўе і шчасце заўжды спрыяе.

*Вернікі з в. Еўлашы, парафія Лядск*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу**

з нагоды Велікодных свят сардэчна жадаем здароўя на доўгія гады, багатага плёну на Божай ніве, дароў Святога Духа, спакойных дзён у Божай ласцы і сіл, каб весці людзей да Хрыста.

*Парафіяне з в. Альхова*

**Паважаны Ксёндз Віктар Субель!**

З нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем, каб праз ласку міласэрнага Бога Вы ніколі не мелі стомы, былі адораны моцным здароўем, нязгаснай энергіяй і дасканаласцю ў святарскай паслузе. Няхай дары Святога Духа і нястомная апека Панны Марыі будуць для Вас жыватворнай крыніцай на кожную хвіліну жыцця.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважаныя Сёстры Ганна і Агнешка, Кансэкраваныя Удовы Сабіна і Зоф'я!**

З нагоды Велікодных свят жадаем Вам Божай падтрымкі, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і ўсяго найлепшага ў гэты святочны час.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Віктару Мыслюку і Леону Лішыку**

з нагоды Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху і людской дабрыні.

*Верныя парафіяне з Воўпы*

**Паважаным Айцам Пробашчу Вітольду Пяцельчыцу, Віталію Сярко, Яну Асіповічу і Віталію Слуку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шчодрых дароў Святога Духа і няспыннай апекі Маці Божай. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш жыццёвы шлях, а душпастырская паслуга прыносіць радасць і бласлаўлёны плён. Сардэчна дзякуем за цудоўны прыклад набожнасці і навучанне.

*Ружанцовае кола св. Максімільяна з парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін жадаем моцнага здароўя, стойкасці і Божага бласлаўлення. Няхай Панна Марыя дадае сіл і цярплівасці, святло Хрыста будзе верным праваднiком на жыццёвым шляху, святы Заступнік нястомна апекуецца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажываць кожны дзень. Дзякуем за ахвярную паслугу.

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з в. Жырмуны*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шмат здароўя, доўгіх гадоў жыцця, стойкасці, Божага бласлаўлення, апекі Панны Марыі, дапамогі Святога Духа і Божай міласэрнасці на кожны дзень.

*Парафіяне з Новай Руды*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай, здароўя, нястомнасці ў душпастырскім служэнні. Няхай усемагутны Бог адорыць Вас неабходнымі ласкамі, а Марыя заўсёды дапамагае.

*Вернікі з в. Малінавая*

**Паважаным Айцам Пробашчу Валерыю Шэйгервічу і Віталію Манцэвічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас добрым здароўем, а Панна Марыя вядзе да святасці. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, павучальныя казанні і клопат пра наш касцёл.

*Парафіяне з касцёла св. Францішка Асізскага ў г. Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Вялікадня і Дня святара сардэчна жадаем заўсёды быць акружаным промнямі Божай міласэрнасці, моцай Святога Духа і апекай Панны Марыі. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы Заступнік заўсёды будзе побач. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова і радасную ўсмешку.

*Вернікі з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яўгену Учкуронісу, Алегу Яновічу, Сястры Магдаліне Кулай і Закрыстыяніну Сяргею Кікілічу, а таксама Ксяндзам Дзмітрыю Урбановічу, Артуру Валчкевічу, Юрію Едзіку, Віталію Цыбульскаму і Аляксандру Вараб'ёву, якія служылі ў нашай парафіі,**

з нагоды Велікодных свят жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Панны Марыі і святла Святога Духа. Няхай кожны з Вас знаходзіць у сваім сэрцы і пацвярджае жыццём тое значэнне, якое мае Ваша святарскае пакліканне, а агонь веры, надзеі і любові ніколі не пагасне ў сэрцы.

*Апостальскі рух "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Едзіку**

з нагоды Імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў ды нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай кожны Ваш дзень праходзіць у радасці, сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі не пакідаюць, а побач заўсёды будуць зычлівыя людзі.

*Апостальскі рух "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем здароўя, радасці, шмат сіл у вядзенні Божага люду, а таксама цудоўнага плёну на ніве Пана, шчодрых дароў Святога Духа і патрэбных ласкаў ад уваскрослага Хрыста.

*Вернікі з парафіі Імя НПМ, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем, каб Божыя ласкі, якімі прасякнуты Велікодныя святы, напаўнялі Ваша жыццё і паслугу, Маці Божая ахінала сваёй апекай, а побач заўсёды былі добразычлівыя людзі.

*Вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Барысевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага бласлаўлення, душэўнага супакою, радасці і здароўя. Няхай Святы Дух дапамагае ў душпастырскай паслузе і ўдзяляе свае дары, а Панна Марыя ахінае любоўю і апекай.

*Вернікі з парафіі Наваельня*

**Паважанаму Айцу Юрыю Саковічу**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін жадаем, каб кожны дзень быў шчаслівы і бласлаўлёны, сэрца напаўняла радасць, любоў і надзея, у душы жыў супакой, а з твару не сыходзіла ўсмешка.

*Вернікі з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**

з нагоды 40-годдзя і Імянін жадаем моцнага здароўя, аптымізму, нязгаснага запалу ў служэнні Богу і людзям, шчодрых дароў Святога Духа, Божага бласлаўлення, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка.

*Былыя парафіяне са Мсцібава*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Свісліцкаму**

з нагоды Імянін жадаем усяго найлепшага. Няхай добры Бог адорыць Вас моцным здароўем, асвеціць ласкамі шлях і пашле на яго зычлівых людзей. Дзякуем Вам за пабудову касцёла. Заўсёды памятаем у малітве.

*Былыя парафіяне з Бердаўкі*

● працяг віншаванняў у наступным нумары

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Паўлюкевічу і ўсім яго родным**

выказваем словы шчырага жалю ў сувязі са смерцю бабулі. Яднаемся з Вамі ў малітве, дзелячы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог дасць сілы, каб перажыць цяжар страты роднага чалавека. Вечны супакой для памерлай!

*Парафіяне з касцёла свв. апосталаў Пятра і Паўла ў Граўжышках*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1843; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная